

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,*
*твой народ*
*дачакаецца*
*Залацістага,*
*яснага дня!*
*М. Багдановіч.*

**№ 12 (141), ЖНІВЕНЬ 2012 ГОДА**


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ПРАМЫЎКА МАЗГОЎ

**Значна больш увагі маючым адбыцца выбарам пачалі надаваць і прадстаўнікі “ідэалагічнай вертыкалі” Шуміліншчыны. У рамках адзінага дня інфармавання, які адбываецца штомесячна ў трэці чацвер дзевяць прапагандысцкіх груп супрацоўнікаў райвыканкама выехалі на сустрэчы з працоўнымі калектывамі.**

Па меры таго, як набірае ходу парламенцкая кампанія, выканаўчая ўлада пачынае актыўна праводзіць апрацоўку насельніцтва. Прынамсі, у працоўных калектывах раёна, арганізацыях, навучальных установах пастаянна праводзяцца гэтак званыя дні інфармавання. І калі ў ранейшыя гэтыя мерапрыемствы насілі характар абмеркавання надзённых праблемаў, то перад выбарамі гаворка з працоўным людам скіравана ў бок узмоцненай прапаганды на карысць іміджа дзейнай улады. Перадусім начальнікі раённых ідэолагаў атрымалі інструктаж на нарадзе па інфармацыйнаму забяспячэнню выбарчай кампаніі, якая адбылася пад кіраўніцтвам віцебскіх ідэолагаў і старшыні абласнога Савета дэпутатаў А. Я Ацясава.

Дарэчы,аднуз інфармацыйна-прапагандысцкіх груп узначаліў кіраўнік раёна Уладзімір Куранны. Як галоўны “вертыкальчшык” выканаўчай улады, Уладзімір Пятровіч асабіста пачаў ідэалагічную работу сярод калектыву ДРБУ-204. У прыватнасці, ён выказаў свой погляд на сацыяльна-эканамічнае становішча раёна, добрыя ўраджаі зерневых культур, праблемы прыцягнення ў раён замежных інвестыцый, працоўнай дысцыпліны і парадку на рабочым месцы.

Кіраўнік раёна давёў да ведама прысутных, што дабрабыт кожнага грамадзяніна залежыць ад яго добрасумленай працы і адносін да сям’і, і будучага сваіх дзяцей. На яго думку, гэта ўсё і ёсць выбары.

У Мішневічах сустрэчу з працоўным калектывам мясцовага сельгаспрадпрыемства праводзіла старшыня райсавета Ірына Новікава. Тут размова ішла аб падрыхтоўцы дзяцей да школы, аб тэмпах і якасці ўборачнай кампаніі. Пры гэтым Ірына Мікалаеўна нагадала, што і палітычная кампанія павінна прайсці без збояў і парушэнняў.

Безумоўна, раз’язджаючы па раёне перад выбарамі ў “Палатку”, армія чыноўнікаў забяспечвае непасрэдную падтрымку праўладным кандыдатам падчас агітацыі. У гэтым выпадку фармальна парушэння выбарчага зананадаўства быццам бы і не адбываецца. Але ж аб якіх роўных магчымасцях, аднолькавых стартавых умовах для апазіцыйных і праўладных кандыдатаў можна казаць, калі ўзмоцненая прапаганда скіравана на карысць вылучаных тымі ж вертыкальшчыкамі Лукашэнкі прызначэнцаў у “Палатку”? Гэта ўжо ні што іншае, як задзейнічаны мясцовымі чыноўнікамі “адміністрацыйны рэсурс”.

Аднак бюракратычная машына можа і прабуксоўваць. Падрыхтоўка да выбараў па традыцыях старой савецкай ідэалогіі замест дадатковага піяру можа і адштурхнуць выбаршчыка ад прызначэнцаў вертыкалі ўлады. Цікава, як гэта працоўны калектыў ААТ Лаўжанскае змог адзінагалосна вылучыць кандыдатам ў дэпутаты дырэктара Віцебскага кадэцкага вучылішча Уладзіміра Шыцько, які там не працуе, тым больш яго там увогуле не ведаюць? Ці можа ў кадэцкім вучылішчы свайго працоўнага калектыва няма? Байкі штатных ідэолагаў пра росквіт у краіне і эканамічнай стабільнасці дзяржавы ўсур’ёз даўно ніхто не ўспрымае. Выбаршчыкі добра памятаюць, як здарыўся абвал беларускага рубля пасля прэзыдэнцкіх выбараў. Дзеля папулісцкай падтрымкі рэжыма Аляксандра Лукашэнкі яго банкіры на чале з Пятром Пракаповічам напампоўвалі эканоміку пустой грашовай масай. Тады ўкладчыкі страцілі ў банках 1,7 мільярдаў долараў. Па ўсяму відаць, што і гэта выбарчая кампанія не стала выключэннем – зноў кандыдаты ад улады раздаюць пустыя абяцанкі, строяць нерэальныя планы. Да таго ж усе ведаюць, што кішэнны парламент – нелегітымны, не прызнаны цывілізаванымі краінамі. Адкуль тады ў раён пойдуць замежныя інвестыцыі, калі з прызначанымі дэпутатамі не лічацца ўрады еўрапейскіх краін?

**Аляксандр Шчамлёў.**

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

## ВЫБАРЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ АЛЬТЭРНАТЫЎНЫМІ?

**Віцебская сельская акруговая камісія №21 правяла рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Усе тры прэтэндэнты прайшлі працэдуру праверкі подпісаў і адпаведных дакументаў, пасля чаго атрымалі пасведчанні кандыдатаў у дэпутаты без асаблівых праблем.**

Так, заявы для рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты падавалі тры прэтэндэнты: Уладзімір Шыцько (беспартыйны) ад працоўнага калектыва ААТ “Лаўжанскае” і праз збор подпісаў грамадзян, Ігар Цеплякоў праз вылучэнне ад партыі ЛДПБ і Леанід Аўтухоў, які вылучаўся ад партыі БНФ. Між іншым, конкурс па Віцебскай сельскай акрузе быў ніжэйшы, чым па ўсёй краіне, дзе на 110 месцаў было пададзена 494 заявы. У сярэднім па рэспубліцы конкурс на адно дэпутацкае месца складае 3, 3 чалавекі. Большасць кандыдатаў – прадстаўнікі палітычных партый. Колькасць партыйцаў па краіне складае 54%, - крыху ніжэй,чым па раёне.

Сама працэдура рэгістрацыі кандыдатаў акруговай камісіяй прайшла ў звычайным рэжыме. Праўда, па-за ўвагай грамадскасці не засталася адна акалічнасць. На працэдуру праверкі сапраўднасці падпісных лістоў за вылучэнне праўладнага кандыдата Уладзіміра Шэцько не быў дапушчаны назіральнік ад дэмакратычнага руху Леанід Гаравы. Заўважана, што члены выбарчых камісій ад улады не надта ахвотна імкнуцца да галоснасці і празрыстасці ў сваіх дзеяннях.

Згодна з каляндарным планам, кандыдаты, якія маюць на руках пасведчанні могуць займацца агітацыяй. Перадвыбарная агітацыя ў Беларусі прадоўжыцца да 22 верасня ўключна. Асноўны дзень галасавання на выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў назначаны на 23 верасня. Прычым парадак выкарыстання СМІ ў час выбарчай кампаніі істотна не змяніўся. Дэпутаты маюць права публікаваць перадвыбарныя праграмы згодна з палажэннем. Навацыі закранулі радыё і телебачанне – у сувязі з тым, што ў кандыдатаў з’явілася магчымасць удзельнічаць у дэбатах. Аднак ці будуць выбары дэмакратычнымі і справядлівымі? Як і раней, так і цяпер, камісіі на 97% былі сфарміраваны з прадстаўнікоў вертыкалі ўлады і цалкам залежных ад адміністрацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый грамадзян. Насамрэч замест выбараў адбываецца іх імітацыя і прафанацыя. Для цяперашняй улады выбарчы фарс – гэта шырма, за якой яны хочуць пасадзіць у кішэнны парламент чыноўнікаў Аляксандра Лукашэнкі. Да таго ж рэжым не вызваліў з турмы палітычных вязняў, сярод якіх былы кандыдат ў прэзыдэнты Мікола Статкевіч, праваабаронца Алесь Бяляцкі, лідэр моладзевага руху Зміцер Дашкевіч. Таму дэмакратычныя партыі заявілі аб тым, што не будуць удзельнічаць у выбарчай кампаніі, калі да датэрміновага галасавання іх лідэры не будуць выпушчаны на свабоду.

**Аляксандр Шчамлёў.**

НАША МОЛАДЗЬ

## ЗА ЖЫЦЦЁ БЕЗ ШКОДНЫХ ЗВЫЧАК

**Па ініцыятыве райаддзела культуры, мясцовай школы пры падтрымцы Обальскага керамічнага завода прайшло чарговае мерапрыемства, прысвечанае прапагандзе здаровага ладу жыцця. Для школьнікаў і гледачоў былі арганізаваны рок-канцэт, выставы, водныя вандроўкі па рацэ.**

Уступным словам вітаў гледачоў дырэктар Обальскай сярэдняй школы А. М. Штокін. Аляксандр Мікалаевіч заклікаў школьнікаў шанаваць родны край, больш падарожнічаць па ўлюбёных мясцінах. Прынамсі, вандроўкі загартоўваюць малады арганізм, дапамагаюць яму набываць устойлівасць ад шкодных звычак.

На адкрытай пляцоўцы каля Обальскай школы ладзілі рок-канцэрт гурта “Гарэзнікі”. Энергетыка ад гурта многім прыйшлася даспадобы. Адбылася таксама выстава літаратуры адпаведнай тэматыцы, быў арганізаваны конкурс – дзеці малявалі інфармацыйныя плакаты.

У акцыі прымала ўдзел мясцовы лекар А. В. Арлова, якая распавяла пра культуру здаровага харчавання. На жаль, але сучасныя традыцыі ў галіне харчавання працягласці жыцця і ўмацаванню здароўя дакладна не спрыяюць. Нашы медыкі даўно б’юць трывогу: структура харчавання беларускіх школьнікаў мае моцна выражаны вугляводны ўхіл. Акрамя таго на працягу дня многія дзеці п’юць з цукрам чай і каву, спажываюць піrожныя і пячэнне, запіваюць іх газіроўкай, якая таксама змяшчае «ўдарныя» дозы цукру. А гэта і лішняя вага, і іншыя хваробы, звязаныя з павышаным спажываннем вугляводаў. Таму культуру харчавання трэба прывіваць у сям’і, не замяняць кашу або суп булкай, з каўбасой ці сасіскай.

Парадавала гасцей і удзельнікаў мерапрыемства вандроўка на катамаранах па рацэ Обаль. Пасля кароткага інструктажу жадаючыя адправіліся ў падарожжа. Дарэчы, аднаму з катамаранаў было дадзена імя Уладзіміра Караткевіча, які сам быў аматарам водных вандровак.

**Алесь Прыбярэжны.**

ПРАВАПАРАДАК

## Самы нізкі ўзровень даверу

Толькі 28 працэнтаў насельніцтва раёна станоўча ацэньвае дзейнасць Шумілінскай міліцыі. Гэта самы ніжэйшы паказчык ў вобласці.

Абавязак органаў унутраных спраў – барацьба са злачыннасцю, ахова грамадскага правапарадку і забеспячэнне грамадскай бяспекі. Пры гэтым асноўным крытэрыем эфектыўнасці работы органаў унутраных спраў з’яўляецца сацыяльны давер грамадзян. І як паказвае апытанне, больш паловы насельніцтва Віцебскай вобласці не давяраюць работнікам міліцыі.

Паводле грамадскага меркавання, вынікі якога праанализавалі ў Віцебскай абласной Управе ўнутраных справаў, найбольшая ступень даверу міліцыі зафіксавана ў Сенненскім (42,6%) і Лепельскім (42,4%) раёнах. Ніжэйшы паказчык – у Шумілінскім раёне, дзе міліцыі давяраюць толькі 28,7% жыхароў. Так, у Оршы, за якой традыцыйна замацавалася рэпутацыя крымінальнага горада, міліцыі цалкам давяраюць 35,4% гараджан, але ў Полацку і Наваполацку такіх людзей яшчэ меней – адпаведна 31,4% і 30,6%. Што да райцэнтраў, то за сваю бяспеку ў грамадскіх месцах больш за ўсіх упэўнены жыхары Гарадоцкага (68,5%) і Лепельскага (64,9%) раёнаў. У сярэднім па Беларусі цалкам давярае міліцыі 35,3% насельніцтва.

**Алесь Прыбярэжны.**

## “СВІТАНАК” У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# Паглыбляецца крызіс сям'і

**У раёне працягваюцца негатыўныя тэндэнцыі па распаду інстытута сям'і. На пачатку года разводаў на Шуміліншчыне адбываецца больш, чым было заключана шлюбаў.**

У студзені было зарэгістравана ўсяго пяць шлюбаў у сельвыканкамах. На працягу месяца аддзел ЗАГСу у райцэнтры не зарэгістраваў ніводнага шлюбу. Нарадзілася 19 дзяцей, з іх 8 дзяўчынак і 11 хлопчыкаў. У той час памерла 38 чалавек, у тым ліку 11 з іх – працаздольнага ўзросту.

Сям'я — крыніца і звязваючае звяно перадачы дзіцяці сацыяльна-гістарычнага вопыту, перш за ўсё эмацыянальных і дзелавых узаемаадносін паміж людзьмі. Страта яе — самая цяжкая трагедыя ў жыцці малога. Памяншаецца колькасць шлюбаў, паболела скасаванняў. У выніку дзеці застаюцца без аднаго з бацькоў. Той факт, што ў раёне расце колькасць дзяцей, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы, быў агучаны на мінулагодняй настаўніцкай канферэнцыі. Сумныя лічбы: у сацыяльна небяспечным становішчы аказалася 205 дзяцей са 118 сем'яў у 2011 годзе, у 2010 годзе – 147 дзяцей з 84 сем'яў. Разам з тым расце колькасць бацькоў, пазбаўленых бацькоўскіх правоў (летась 15, у 2010 годзе – 13), расце колькасць дзяцей-сірот пры жывых бацьках — усё гэта не можа не выклікаць самую сур'ёзную трывогу. Прычыны, што спрыяюць росту сацыяльнага сіроцтва, розныя: павелічэнне колькасці дзяцей, народжаных па-за шлюбам у непаўналетніх маці, матэрыяльныя і жыллёвыя цяжкасці бацькоў, нездаровыя адносіны ў сям'і, слабыя маральныя ўстоі, алкагалізм, ухіленне бацькоў ад выхавання малых.

У Беларусі зніжаецца колькасць зарэгістраваных шлюбаў, тады як колькасць разводаў, наадварот, расце. Так, у студзенілілені 2012 года на адну тысячу шлюбаў у краіне прыпадала 667 разводаў, у студзені-ліпені 2011 года – 506 разводаў. Усяго на 8516 заключаных у краіне шлюбаў прышоўся 6291 развод –73%, на Віцебшчыне паказчык яшчэ вышэй –77% ад створаных сем'яў.

Каля 60% сямейных пар пры разводзе маюць дзяцей, а колькасць няпоўных сем'яў з 1999-га па 2009 год павялічылася ў 1,7 раза.

Практычна кожны пяты шлюб у Беларусі з'яўляецца бясплодным. Прычына гэтага крыецца ў інфекцыях, якія перадаюцца палавым шляхам (ІППШ). Да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі кафедры скурных і венерычных хвароб Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

**С. Горкі.**

У ЦЭНТРЫ УВАГІ

# НА МЕСЦАХ СЛУЖБЫ НЕ ПРАЦУЮЦЬ

**Чарговая "прамая лінія" яшчэ раз прадэманстравала, што нямала пытанняў на месцах па-ранейшаму не вырашаюцца. У телефоннай сустрэчы з намеснікам старшыні райвыканкама Анатолем Зайцавым прынялі ўдзел удвая болей жыхароў раёна, чым у мінулы раз. Найбольш актуальнымі для жыхароў былі сацыяльна-бытавыя праблемы.**

Мясцовыя кіраўнікі ў асноўным ведаюць, якія скаргі ад насельніцтва павінны паступіць на "гарачую лінію". Менавіта таму кіраўнік раёна Уладзімір Куранны неаднаразова папярэджваў аб тым, што непажадана выносіць на афіцыйны дыялог дробязныя пытанні, якія павіны вырашацца на месцах. І сапраўды, падчас апошніх мерапрыемстваў хваля скаржнікаў пайшла на спад. Аднак жыхарам раёна "пашанцавала" – У. Куранному выклікала абласное начальства, і прыём званкоў праводзіў яго намеснік А. Зайцаў.

Асаблівую заклапочанасць людзей выклікала забеспячэнне пітной вадой. Не за гарамі халады, а водаправод, што ў завулку Тарфяны дагэтуль не адрамантаваны. Адну грамадзянку вельмі непакоіць сітуацыя, якая можа паўтарыцца пры моцных маразах. Мінулай зімой водаправод замёрз, і людзі засталіся без вады. Сітуацыю будуць высвятляць. Дзве жанчыны з кааператыўнага дома па вуліцы Суворава прасілі разабрацца з няякаснай вадой. Па іх словах, вада паступае з непрыемным пахам, яе немагчыма піць. Дырэктар жыллёва-камунальнай гаспадаркі Іван Штуро паведаміў, што пытанне яму знаёма. Нядаўна ў доме быў заменены фільтр, але чамусьці вада паступае па-ранейшаму ржавая. Зараз гэта пытанне патрабуе больш дасканалага вывучэння.

Тэлефанаванне жыхара г.п. Шуміліна з вуліцы Валадарскага тычылася набалелага пытання з падтапленнем падполля ўласнага дома. Мужчына даводзіў, што заліваюць не грунтовыя воды, а парывы водаправода. Трэба разбірацца. Падобная праблема і ў грамадзяніна, які пражывае ў доме №4 па вуліцы 70 год БССР. Вада працякае ў падвал праз дзірку ў адмосціц, дзіравы венцель, а камунгас з рамонтам не спяшаецца. Пытанне ўзята на кантроль.

Званілі работнікі, незадаволеныя сваім малым заробкам. З сельгаспрадпрыемства "Ульскі" адна жанчына скардзілася на несправядлівую аплату працы. Яна адпрацавала з месяц вартаўніком на ферме, дзе абяцалі заробак ў мільён рублёў, а выплацілі ўсяго крыху больш 300 тысяч. Анатоль Зайцаў звярнуўся да дырэктара гаспадаркі Ю. Савіцкага. Цяпер адміністрацыя будзе разбірацца дадаткова.

Жыхары мікрараёна МСО таксама вырашылі агучыць свае праблемы і звярнуліся за дапамогай. Іх непакояць старыя бярозы, якія могуць не вытрымаць моцных вятроў і пашкодзіць жыллё. А гэта зноў папрок у адрас камунгасу, якому было дадзена даручэнне. Нараканні на дрэнны стан пад'язных дарог сыпаліся ад шумілінцаў з вуліц Садовая і Суворава. Патрэбна было б зрабіць падсыпку дарогі да могілак за вёскай Крупчына, а людзям нязручна хадзіць без тратуара за чыгункай уздоўж вуліцы Сіпко. Але тут адных абяцанняў мала: няма сродкаў у бюджэце. Таму пытанне будзе вырашацца праз пэўны час.

Астатнія звароты тычыліся праблемаў вяскоўцаў, якія маюць асабістую падсобную гаспадарку. Да прыкладу, пчаляры з вёскі Цаўі выказалі прэтэнзіі да мясцовай гаспадаркі, якая парушыла інструкцыі па хімізацыі палеткаў. Палі апрацоўвалі хімікатамі занадта блізка каля пасекі. Да таго ж гаспадарка не дапамагае сенам тым прыватнікам, якія трымаюць карову і здаюць малако дзяржаве.

Варта адзначыць, што пытанні, якія ўздымалі шумілінцы, у большасці не адносяцца да тых, дзе неабходна ўмяшанне вышэйшых органаў, яны вырашальныя на мясцовым узроўні. А гэта сведчыць аб тым, што на месцах з кожным месяцам ўсё больш бракуе фінансавых сродкаў, як бюджэтных, так і сродкаў насельніцтва. Малыя заробкі і пенсіі ўжо не даганяюць рост цэн на будаўнічыя матэрыялы. Інакш чаму тады гаспадар уласнага дома не можа самастойна справіцца з рамонтам падполля, а звяртаецца ў райвыканкам?

**Алесь Шумскі.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# УЗОРНЫ ПАРАДАК

**Раённая камісія правяла агляд храмаў Шуміліншчыны. Мэта членаў камісіі, у якую ўваходзілі прадстаўнікі санітарнай, прыродаахоўнай і іншых службаў – ацаніць тэхнічны стан мясцовых культавых аб'ектаў.**

Гісторыя хрысціянскага храмавага будаўніцтва Беларусі налічвае каля 1000 гадоў. Яго развіццё адбывалася ў рэчышчы агульнаэўрапейскай мастацкастылістычнай эвалюцыі. Аднак на працягу стагоддзяў не сціхала вострая палітычная, эканамічная і ідэалагічная барацьба паміж рознымі канфесіямі. У выніку шматвяковай сацыяльнай нестабільнасці і адсутнасці агульнанацыянальнага веравызнання асабліва моцна пацярпела манументальная культавая архітэктура, якая з усіх іншых відаў мастацтва вызначаецца найбольшай ідэалагічнай завостранасцю і залежнасцю ад духоўнага жыцця грамадства. Таму большасць храмаў былі разбураны, а парэшткі ўцалелых не могуць аднавіць дагэтуль. Бадай што, Шумілінскі раён адзіны, у райцэнтры якога няма царквы. Толькі сёлета распачаліся работы па ўзвядзенню новага праваслаўнага храма Свяціцеля Мікалая Цудатворцы.

Зараз царкоўная служба на Шуміліншчыне вядзецца ў 16-ці культавых збудаваннях. Амаль усе яны належаць на праваслаўнай канфесіі. На жаль, не усё з іх адпавядаюць тэхнічным патрабаванням, санітарным нормам, некаторыя ўладальнікі не маюць адпаведных дакументаў. Таму па распараджэнню старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца па ўсёй вобласці вядзецца работа па абследванню культавых збудаванняў.

Кантроль тэхнічнага стану аб'екта нерухомасці – гэта адзін з асноўных элементаў у эксплуатацыі нерухомасці. Вельмі важна прадбачыць, як бягучы стан абсталявання і іншых элементаў будынка можа паўплываць на будучую эксплуатацыю аб'екта, спрагназаваць, якія непрыемнасці могуць паўстаць пасля, ацаніць сітуацыю і зрабіць правільныя высновы.

Да прыкладу, мясцовай праваслаўнай епархіі належыць будынак былога клуба ў раёне СШ №1. Але гэта прыстасаванае памяшканне ўвогуле цяжка назваць царквой. Зараз ён нагадвае аварыйнае памяшканне, і каб правесці рэканструкцыю, патрэбны немалыя грошы, якіх няма. Найбольш вернікаў збіраецца ў праваслаўным храме, што размешчаны ў Лескавічах. Будынак з большага дагледжаны. Гэта Свята-Сергіеўская царква разам са Свята-Успенскай у вёсцы Пабеда залічана ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь. Да таго ж гэтыя помнікі спадчыны ахоўваюцца дзяржавай і могуць разлічваюць на фінансавую дапамогу. Аднак храм ў вёсцы Пабеда, які ацалеў падчас вайны, цяпер зусім закінуты і знаходзіцца ў занядбаным стане.

У гарпасёлку Обаль таксама царква размешчана ў прыстасаваным памяшканні – былым будынку сельсавета. Аднак айцец Уладзімір, настаяцель Обальскага прыходу не губляе надзеі, што да канца года завершыць будаўніцтва купала.

Уражвае наведвальнікаў каталіцкі касцёл Маці Божай Фацімскай. Яшчэ з савецкіх часоў каталікам перадалі пад храм незавершаны доўгабуд. Да тае пары ён дабудоўваецца па сучасным тэхналогіям і прыгажэе. Наогул, каталіцкія святары – самыя актыўныя ў раёне, займаюцца дабрачыннай і асветніцкай дзейнасцю.

Хочацца верыць, што наш народ у рэшце рэшт вызваліцца ад савецкага таталітарнага цемрашальства, знойдзе новыя варункі ў пошуках праўды і свабоды. У цяперашнім хворым грамадстве само жыццё вымагае чыннага прыхілення да веры, дзякуючы якой шмат хто прыходзіць да жывейшага пачуцца Бога.

**Я. Вайтовіч.**

АДУКАЦЫЯ

# ВЫНІКІ ГАТОЎНАСЦІ

**Гатоўнасць школ раёна да новага навучальнага года правярала дзяржаўная камісія, у якую ўваходзілі службовыя асобы райвыканкама. Наколькі аб'ектыўным і крытычным быў падыход да выдачы пашпартоў гатоўнасці школьным установам?**

Справядліва будзе адзначыць, што пераважная большасць навучальных устаноў Шуміліншчыны завершылі бягучыя рамонты. Школы раёна сустрэнуць сваіх вучняў добраўпарадкаванымі дварамі, чыстымі і ўтульнымі калідорамі, абсталяванымі неабходным інвентаром спартыўнымі заламі, з густам афармленымі класамі і пакоямі для адпачынку. Пры ўсім тым, што сёлета толькі на фарбу пайшло 150 мільёнаў рублёў бюджэтных сродкаў. Аднак для поўнага завяршэння рэканструкцый памяшканняў, набыцця школьнага абсталявання, прыбораў, добраўпарадкавання тэрыторыі патрабуюцца больш значныя фінансавыя выдаткі. Па словах кіраўніка вобласці Аляксандра Косінца, для школ Віцебшчыны дадаткова было выдзелена 20 мільярдаў. Праўда і тое, што сёлета школам прыходзі¬лася як ніколі разлічваць на сябе – гэта вынік склаўшыхся неспрыяльных эканамічных умоў. Літаральна ўсюды рамонт праводзіўся за ўласныя сродкі.

У цэлым члены камісіі пагадзіліся з тым, што большасць шумілінскіх устаноў адукацыі падрыхтавана да прыёму вучняў лепш, чым у мінулым годзе. Вось толькі з вучнямі праблема – з кожным годам іх становіцца ўсё меней. У некаторых вёсках раёна колькасць дзяцей складае ад 5 да 20 чалавек. Да прыкладу, у Сіроцінскай школе сядуць за парты ўсяго 29 дзяцей.

**Уладзімір Амбросаў.**

БУДАЎНІЦТВА

# Шумілінскія лесаводы атрымаюць новы будынак

У недалёкай перспектыве ў лясніцтве з'явіцца новы будынак. Новабудоўлю плануюць распачаць у кастрычніку бягучага года. А пакуль што паспяхова правялі рэканструкцыю адміністрацыйнага будынка з капітальны рамонтам.

Для таго, каб людзям было зручна і камфортна працаваць, вялікая ўвага надаецца навядзенню парадку ў лясах, месцах адпачынку, а таксама добраўпарадкаванню адміністрацыйных будынкаў у лясніцтвах і на прылягаючых тэрыторыях. Сёлета ў лясніцтве вяліся работы па закладцы дэкаратыўна-пасадачнага матэрыяла ў цяпліцах. Для гэтай мэты былі ўзведзены дзве цяпліцы – для зялёнага чаранкавання і для лесакультурнай вытворчасці. Тут вырошчвалі тысячы саджанцаў жоўтай акацыі, плакучай вярбы, бярозы.

І гэта яшчэ не ўсё. Увогуле, кіраўніцтва лясной гаспадаркі скіравала дзейнасць на аднаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы. Ужо зроблены рамонт і праведзена добраўпарадкаванне Мікалаёўскага, Казьянскага і Обальскага лясніцтваў. Усяго на гэтыя мэты затрацілі 1 мільярд 211 мільёнаў рублёў.

У бліжэйшым будучым Шумілінскае лясніцтва можа змяніць пастаяннае месца прапіскі. На днях лясгас набыў камплект каркасна-шчытавога дома коштам 200 мільёнаў – пад новы будынак. Цяпер жа капітальна адрамантаванае памяшканне набыло сучасны выгляд, умовы працы ў ім, у адрозненне ад папярэдніх, сталі больш камфортныя. Рэканструкцыя была зроблена сваімі сіламі, на гэта пайшло 628 мільёнаў рублёў. У аднаўленых кабінетах паставілі новую мэблю.

Жыццё на месцы не стаіць. У лясгасе ідзе пошук новых ідэй, тэхналогій, распрацовак. Гэта дазваляе ім працаваць і развіваць сваё прадпрыемства.

**С. Горкі.**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ЭКСПЕРТ: МІЛІНКЕВІЧ І НЕ МОГ ТРАПІЦЬ У ПАРЛАМЕНТ

ВА ЎМОВАХ КАНСАЛІДАВАНАГА АЎТАРЫТАРЫЗМУ НЕ ДАВОДЗІЛАСЯ СПАДЗЯВАЦЦА, ШТО АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ ЯК АДЗІН З ЛІДАРАЎ БЕЛАРУСКАЙ АПАЗІЦЫІ ТРАПІЦЬ У ПАРЛАМЕНТ. ТАК КАРЭСПАНДЭНТУ ТЭЛЕГРАФА ПРАКАМЕНТАВАЎ НЕРЭГІСТРАЦЫЮ ЭКС-КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗІДЭНТЫ БЕЛАРУСКІ ПАЛІТОЛАГ АЛЕСЬ ШАМЯКІН. «У БЕЛАРУСІ ПАРЛАМЕНТ НЕ З'ЯЎЛЯЕЦЦА МЕСЦАМ, ДЗЕ АДБЫВАЕЦЦА ПАЛІТЫЧНАЯ БАРАЦЬБА», - АДЗНАЧЫЎ ЁН.

«Справа ў тым, што аўтарытарны рэжым выкарыстоўвае парламент і выбары для імітацыі дэмакратычнага працэсу, а таксама ў сваіх унутрырэжымных мэтах як, напрыклад, ганаровае завяршэнне кар'еры і гэтак далей. Пры такіх абставінах наяўнасць апазіцыі ў парламенце рэжыму проста не патрэбна», - адзначыў ён.

Паводле яго слоў, апазіцыя яшчэ ніколі не дамагалася поспеху на выбарах у Палату прадстаўнікоў. «Таму абсалютна не было ніякіх падставаў меркаваць, што на гэты раз кагосьці пусцяць у парламент. Дарэчы, гэта ўжо далёка не першы выпадак, калі апазіцыя памылкова ацэньвае магчымасць абрання ў парламент», - сказаў Алесь Шамякін, прывёўшы ў прыклад 2004 год.

«Распаўсюджанае меркаванне аб тым, што з'яўленне апазіцыі ў парламенце будзе спрыяць урэгуляванню стасункаў з Захадам, таксама з'яўляецца памылковым, бо беларускія ўлады яшчэ ніколі не выкарыстоўвалі дадзеную магчымасць для дыялогу з Захадам. Для рэжыму важней захаваць маналітнасць палітычнай сістэмы, што важна для стабільнасці аўтарытарнай улады. Куды больш верагодным сцэнарам для пачатку нармалізацыі адносінаў з Захадам з'яўляецца вызваленне палітвязняў, чым пропуск апазіцыі ў парламент», - падкрэсліў палітолаг.

Камісія Уручскай выбарчай акругі № 109 22 жніўня адмовіла ў рэгістрацыі ў якасці кандыдата ў дэпутаты лідару Руху «За Свабоду» Аляксандру Мілінкевічу. У акружкаме заявілі са спасылкай на крыміналістаў з міністэрства ўнутраных спраў, што больш за 15% сабраных палітыкам подпісаў аказаліся несапраўднымі.

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# ВЫБОРЫ В ПАРЛАМЕНТ БЕЛАРУСИ - СПЕКТАКЛЬ С ИЗВЕСТНЫМ ФИНАЛОМ

КАМПАНИЯ ПО ВЫБОРАМ В БЕЛОРУССКИЙ ПАРЛАМЕНТ ПРОХОДИТ ПО ПЛАНУ ВЛАСТЕЙ. ПЕРВЫЙ ЕЕ ЭТАП ПОКАЗАЛ, ЧТО МИНСК ПРИВЫЧНО УПРАВЛЯЕТ ИЗБИРАТЕЛЬНЫМ ПРОЦЕССОМ С ПОМОЩЬЮ АДМИНИСТРАТИВНОГО РЕСУРСА, СЧИТАЕТ НАТАЛЬЯ МАКУШИНА. ПЕРВЫЙ ЭТАП ПАРЛАМЕНТСКОЙ КАМПАНИИ ПОКАЗАЛ, ЧТО МИНСК НЕ СОБИРАЕТСЯ ОТКАЗЫВАТЬСЯ ОТ ИСПОЛЬЗОВАНИЯ АДМИНИСТРАТИВНОГО РЕСУРСА ДЛЯ УПРАВЛЕНИЯ ИЗБИРАТЕЛЬНЫМ ПРОЦЕССОМ. ДЕЙСТВУЯ ПО НАРАБОТАННОМУ ПЛАНУ, БЕЛОРУССКИЕ ВЛАСТИ ОБЕСПЕЧИВАЮТ ДОСТИЖЕНИЕ НУЖНЫХ ИМ ИТОГОВ ВЫБОРОВ В ПАЛАТУ ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ, КОТОРЫЕ СОСТОЯТСЯ 23 СЕНТЯБРЯ.

### Декорации для наблюдателей

События вокруг выборов в белорусский парламент напоминают спектакль с заранее известным финалом - в итоге опять победят кандидаты от власти. Судя по развитию ситуации, Минск не собирается менять политическую систему, а формальные признаки либерализации использует в качестве декораций по примеру выборов президента в 2010 году.

Признаков таких немного. В Беларусь приглашена миссия ОБСЕ - 36 человек для долгосрочного наблюдения и 270 краткосрочных наблюдателей. Пользуясь изменениями в законодательстве, политические партии на этих выборах проявляют большую активность, чем прежде: 206 из 363 зарегистрированных кандидатов в депутаты представляют ту или иную партию. Соответственно, по сравнению с выборами в парламент в 2008 году, уменьшилось и число безальтернативных округов - с 16 до 4. А главное, к участию в выборах допущены 110 оппозиционеров - как раз столько всего мест в Палате представителей.

Игры в либерализацию, видимо, продолжатся и на этапе агитации, когда оппозиционерам ненадолго предоставят право общаться с избирателями. Центризбирком (ЦИК) гарантировал всем кандидатам возможность агитировать буквально с момента их регистрации. Пожалуй, вот на этой стадии либеральные вольности и закончатся.

### Западня для оппонентов

Режим Лукашенко надеется в очередной раз одержать «элегантную победу», переиграв оппозиционеров, обещавших снять свои кандидатуры накануне голосования в знак протеста, если к тому моменту не будут выпущены на свободу политзаключенные. Такое решение о досрочном снятии всех своих 35 кандидатов в депутаты уже приняла Объединенная гражданская партия (ОГП). Аналогичной тактики собираются придерживаться и Партия БНФ, от которой зарегистрировано 30 кандидатов, а также кампания «Говори правду!» с 13 кандидатами.

Но поскольку для белорусской власти формирование послушного парламента важнее, чем оценка избирательной кампании Брюсселем, политзаключенные пока останутся за решеткой в качестве заложников. Зато несколько десятков оппозиционеров досрочно и добровольно покинут предвыборную гонку, увеличив тем самым количество безальтернативных округов, чем воспользуются провластные кандидаты.

### Либерализация откладывается

С учетом того, что среди 69 тысяч членов участковых комиссий всего 61 представитель оппозиционных партий, выборы пройдут по заранее расписанным властями ролям для всех участников. В том числе и для уже обвиненных в предвзятости наблюдателей от ОБСЕ, и для российских политиков с их обещаниями «не дать Беларусь в обиду». Даже для белорусских избирателей подобрано нужное амплуа - бессловесного исполнителя.

Европейских политиков, которые осенью будут наблюдать также и за парламентскими кампаниями на Украине и в Грузии, на белорусскую сцену пока не зовут. Но не исключено, что сразу после выборов Минск пригласит их поучаствовать в своем очередном спектакле с названием «Хочу дружить с Европой».

**Наталья Макушина, DW.de**

УСХОДНЯЯ СУСЕДКА

# РАСІЯ Ў СГА: КРЫЖ НА БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭЛІ

ТАКІМ ЧЫНАМ, 22 ЖНІЎНЯ СКОНЧЫЛАСЯ 17-ГАДОВАЯ ЭПАПЕЯ З УСТУПЛЕННЕМ РАСІІ Ў СУСВЕТНУЮ ГАНДЛЁВУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ. УЛІЧВАЮЧЫ НАЯЎНЫЯ Ў БЕЛАРУСІ ІНТЭГРАЦЫЙНЫЯ АБАВЯЗКІ Ў РАМКАХ МЫТНАГА САЮЗА З КАЗАХСТАНАМ І РАСІЯЙ, МОЖНА СЦВЯРДЖАЦЬ, ШТО ЎСТУПЛЕННЕ АПОШНЯЙ У СГА МАЕ ІСТОТНАЕ ЗНАЧЭННЕ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ. НОРМЫ І ПРАВІЛЫ СГА БУДУЦЬ ЗМУШАЦЬ КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ РЭФАРМАВАЦЬ ІСНУЮЧУЮ ЭКАНАМІЧНУЮ МАДЭЛЬ. АДНАК ЦІ ЗБІРАЮЦЦА БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ПРЫТРЫМЛІВАЦЦА ГЭТЫМ НОРМАМ І ПРАВІЛАМ?

### Што азначае ўступленне Расіі для Беларусі?

Пасля таго як Беларусь падпісала і ратыфікавала Дагавор аб функцыянаванні Мытнага саюза ў рамках шматбаковай гандлёвай сістэмы, уступленне Расіі ў СГА набыло для беларускай эканомікі асаблівае значэнне.

Паводле дамовы, стаўкі Адзінага мытнага тарыфу Мытнага саюза не павінны перавышаць імпартныя мытныя тарыфы, пра якія Расія дамовілася з іншымі членамі СГА. Гэта значыць дамоўленасці Расеі з СГА па ўзроўні абароны ўнутранага рынку аўтаматычна становяцца абавязковымі для Беларусі. Да таго ж гэты дагавор прадугледжвае прыярытэт абавязацельстваў у рамках СГА перад абавязальніцтвамі ў рамках Мытнага саюза.

Такім чынам, Беларусь становіцца свайго роду «членам СГА напалову». Беларускі рынак павінен адкрыцца для імпарту з іншых краін СГА па мытных тарыфах Расіі. Аднак беларускі экспарт не атрымлівае аналагічных з расійскім льгот на рынках СГА. Больш за тое, не будучы членам арганізацыі, Беларусь не мае доступу да існуючых ў СГА механізмаў дазволу гандлёвых спрэчак.

### Нялёгкія перспектывы

Сяброўства Расеі ў СГА азначае, што беларускія прадпрыемствы сутыкнуцца з нарастаючым канкурэнцыяй і, як следства, дадатковымі цяжкасцямі для збыту прадукцыі.

Па дадзеных беларускага МЗС, па больш чым тысячы таварных пазіцый тарыфныя абавязацельствы Расіі перад СГА павінны быць зніжаны на 7-15% у параўнанні са стаўкамі Адзінага мытнага тарыфу Мытнага саюза. З іх 50 пазіцый з'яўляюцца адчувальнымі для Беларусі. Яшчэ па прыкладна паўтары тысячам пазіцый новыя тарыфныя абавязацельствы ніжэй старых тарыфаў на 4-6,5%. Для Беларусі адчувальнымі тут з'яўляюцца больш за 160 пазіцый.

Пры гэтым змена тарыфных ставак адбудзецца не ў адзін момант. Згодна з дасягнутымі Расеяй дамоўленасцяў, прадугледжваецца пераходны перыяд, на працягу якога стаўкі павінны дасягнуць ўзгодненага ўзроўню. Для розных груп тавараў гэты перыяд розны: ад двух да сямі гадоў.

Таму і беларускія вытворцы будуць сутыкацца з канкурэнцыяй, якая расце паэтапна. Паводле вынікаў сумеснага даследавання Нямецкай эканамічнай групы ў Беларусі і Даследчага цэнтра ІПМ, першым «пад раздачу» трапіць грузавое аўтамабілебудаванне. Бліжэй да заканчэння пераходнага перыяду істотны рост канкурэнцыі адчуюць вытворцы седлавых цягачоў, грузавікоў, тэлевізараў, халадзільнікаў, фармацэўтычнай прадукцыі, а таксама вырабаў для транспарціроўкі або ўпакоўкі тавараў з пластмас.

Да нялёгкім перспектывах беларускай эканомікі можна дадаць і яшчэ адзін фактар. Пасля далучэння да СГА Расія тэарэтычна становіцца больш цікавай для замежных інвестараў.

Калі не ўмяшаюцца іншыя абставіны, то можна чакаць актывізацыі інвестыцыйных укладанняў у прадпрыемствы расійскай юрысдыкцыі. Гэта будзе спрыяць мадэрнізацыі эканомікі Расіі, у выніку чаго Немадэрнізаваныя беларускім прадпрыемствам будзе яшчэ больш складана канкураваць у рамках Адзінай эканамічнай прасторы.

У сваю чаргу, Расія не здольная стаць лакаматывам мадэрнізацыі для Беларусі. Такую ролю магла б адыграць Еўропа, але адносіны з ЕС у Мінска горш няма куды, і ў раптоўна іх не папраўіш.

### Канец беларускай эканамічнай мадэлі?

Па-за залежнасці ад таго, якія таварныя групы і ў якой ступені сутыкнуцца з якая расце канкурэнцыяй, глабальнае значэнне ўступлення Расеі ў СГА заключаецца ў тым, што яно фактычна ставіць крыж на адыёзнай беларускай эканамічнай мадэлі.

Галоўнымі рысамі гэтай мадэлі з'яўляюцца рознага роду датацыі і ільготы, перакрыжаванае субсідаванне, выбарачнае крэдытаванне пад дзяржаўныя гарантыі, а таксама паўсюдна распаўсюджаная адміністрацыйнае размеркаванне і пераразмеркаванне рэсурсаў. Усе гэтыя эканамічныя звычкі цалкам супярэчаць прынцыпам СГА, а ў сённяшніх умовах - і дэклараваным нормам Адзінай эканамічнай прасторы.

Таму, калі Беларусь будзе выконваць узятыя на сябе абавязацельствы, то ад асноў беларускай эканамічнай мадэлі, якой да гэтага часу па звычцы ганарыцца Аляксандр Лукашэнка, прыйдзецца адмовіцца. Аднак ёсць падставы сумнявацца, што беларускія ўлады збіраюцца выконваць свае абавязацельствы.

**Яўген Прэйгерман.**

*Чытаць цалкам:* http://naviny.by/rubrics/economic/2012/08/28/ic_articles_113_178990.



ПРАБЛЕМЫ РАЗВІЦЦЯ

# ЭКАНАМІЧНАЯ РЭФОРМА: МАРУДЗІЦЬ НЕЛЬГА?

У АПОШНІ ЧАС ДЗЯКУЮЧЫ "ЕЎРАПЕЙСКАМУ ДЫЯЛОГУ АБ МАДЭРНІЗАЦЫІ З БЕЛАРУССЮ» ВЯДЗЕЦЦА ШМАТ РАЗМОЎ ПРА ТОЕ, ЯКІЯ ЗМЕНЫ ПАТРЭБНЫЯ КРАІНЕ, ЯК ІХ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЬ І ЯКІЯ ПРАБЛЕМЫ МОГУЦЬ УЗНІКНУЦЬ НА ШЛЯХУ РЭАЛІЗАЦЫІ РЭФОРМАЎ. ПРЫ ГЭТЫМ СЯРОД ЭКСПЕРТАЎ І АПАЗІЦЫЙНЫХ ПАЛІТЫКАЎ НЯМА АДЗІНАГА МЕРКАВАННЯ АБ ТЫМ, ЯК ПРАВОДЗІЦЬ ПЕРАЎТВАРЭННІ: ХУТКА АБО ПАСТУПОВА. ЦІ ТРЭБА СПЯШАЦЦА ПАВОЛЬНА?

Прыхільнікі паступовых зменаў паказваюць на правальны расійскі вопыт - шокавую тэрапію Ягора Гайдара. З аднаго боку, іх меркаванне зразумела - у памяці беларусаў трывала заселі расійскія падзеі 90-х гадоў: рэзкае падзенне ўзроўню жыцця, інфляцыя, забастоўкі шахцёраў і бандытызм.

Але, з іншага боку, працэсы, якія праходзілі ў Расіі, маюць мала агульнага з мадэрнізацыяй. Па сутнасці, рэфармаванне эканомікі так і не было ажыццёўлена. Прапанаваныя рэформы былі альбо праведзены часткова, альбо і зусім не пачыналіся. Па сутнасці, тыя крокі былі накіраваны на пераход не да рынкавай эканомікі, а да пераразмеркавання ўласнасці на карысць некаторых асоб.

**Калі звярнуцца да еўрапейскага вопыту, то хуткім шляхам мадэрнізацыі пайшлі такія краіны, як Польшча, Чэхія, Эстонія, з 1997 года да іх далучылася Славакія.**

Паступовую мадэрнізацыю аддалі перавагу Балгарыя і Румынія. Шмат у чым выбар гэтага шляху тлумачыўся боязззю урадаў страціць уладу з-за адмоўнай рэакцыі грамадства на рэформы. Але, як аказалася, такая палітыка рэформаў у гэтых краінах ўспрымалася насельніцтвам найбольш балюча і негатыўна.

Атрымліваецца, што краіны, якія прайшлі хуткую мадэрнізацыю, апынуліся ў выйгрышным становішчы. Гэта пацвярджаецца словамі спецыяліста па пераходным эканомікам Андэрса Ослунда: «Вельмі многія выступалі за павольныя рэформы. Краіны, якія пачалі хуткія рэформы, выйгралі ».

**Цягнуць гуму - для Беларусі гэта раскоша**

Акрамя ўсяго іншага, у Беларусі ёсць шэраг сваіх уласных фактараў, з-за якіх павольны шлях рэформаў можа прывесці да іх правалу.

Па сваёй сутнасці паступовае рэфармаванне эканомікі магчыма толькі пры наяўнасці спрыяльных умоў: эканамічная стабільнасць, падтрымка рэформаў насельніцтвам і адсутнасць знешніх фактараў, якія негатыўна ўплываюць на мадэрнізацыю.

У Беларусі гэтыя ўмовы адсутнічаюць. Найбольш спрыяльны перыяд скончыўся ў сярэдзіне 90-х, зараз жа любая рэформа ў большасці выпадкаў будзе ўспрымацца негатыўна.

Самай балючай тэмай стане рэфармаванне сістэмы льгот і субсідый. Беларусы прызвычаіліся да таннага грамадскаму транспарту, недарагім паслуг ЖКГ, аднося бясплатнай медыцыне і дзяржаўным рэгуляванні коштаў.

Усё гэта шмат у чым забяспечваецца таннымі энерганосьбітамі, якія Крэмль дае за саступкі. Аднак хутка ўжо і саступаць будзе няма чаго, ці застануцца тады танныя нафту і газ?

**Расійскі біч**

Менавіта нафтавае пытанне можа стаць адным з галоўных падстаў, каб прыняць хуткі шлях рэалізацыі пакета рэформаў. Масква стамілася ад пастаяннай грашовай падтрымкі Беларусі. У апошні час намёкі аб неабходнасці рэфармавання беларускай эканомікі гучалі з вуснаў расійскіх кіраўнікоў неадназова.

Аднак пра якія менавіта рэформах ідзе гаворка - незразумела. Пакуль каменем перапоны паміж Менскам і Масквой застаюцца пытанні прыватызацыі. Так, тэма зліцця МАЗа і КамАЗа, а таксама продаж беларускай калійнай галіны ў карысць Расеі застаюцца адными з галоўных у дыялогу паміж кіраўнікамі дзвюх краін.

Акрамя гэтага, расійскі пасол Аляксандр Сурыкаў неаднаразова ўздымаў пытанне аб увядзенні ў Беларусі расійскага рубля. У такой сітуацыі краіна фактычна страціць эканамічную незалежнасць.

Да таго ж эканоміка самой Расеі мае патрэбу ў рэформах, бо ў выпадку абвалу коштаў на нафту яна можа пайсці на дно. Аднак да рэальнай мадэрнізацыі расейскі ўрад прыступаць не спяшаецца.

Такім чынам, аб пераходзе да паўнавартаснай рынкавай эканомікі з дапамогай Расеі казаць не прыходзіцца. Да таго ж, улічваючы цяперашняе закручванне Крамлём гаек у палітычнай сістэме, няцяжка выказаць здагадку, што пра дэмакратызацыю Беларусі з дапамогай ўсходняй суседкі прамовы таксама ісці не можа.

У выпадку, калі мадэрнізацыя будзе праходзіць не па сцэнары Крамля, могуць узнікнуць вялікія праблемы. Для вяртання Беларусі ў Еўразійскі праект Масква можа выкарыстаць наяўныя ў яе рычагі ўздзеяння: танныя энерганосьбіты і доступ да рынку. Калі Расею не будзе ладзіць ход і напрамак рэформ, Мінск можа страціць і тое, і іншае.

У такім выпадку паўстане неабходнасць хуткай пераарыентацыі знешняга гандлю і пошуку новых партнёраў. Калі мадэрнізацыя будзе расцягнутая, то вырашыць гэтае пытанне паспяхова не атрымаецца.

Да таго ж эканоміка краіны і так неканкурэнтаздольная: нізкая прадукцыйнасць працы, малы працэнт высокатэхналагічных вытворчасцей (цяпер у прамысловасці іх доля складае 4,4%) і адсутнасць інвестыцый. Паводле разлікаў Мінэканомікі, для развіцця прамысловага комплексу неабходна 90 млрд. даляраў. Калі праводзіць рэформы павольна, то адставанне эканомікі Беларусі толькі пагоршыцца.

Таксама, акрамя знешніх прычын выбару хуткіх рэформаў, існуе шэраг ўнутраных. У Беларусі дастаткова моцныя групы, якія не зацікаўлены ў рэформах і ўсяляк будуць супрацьстаяць пераходу да паўнавартаснай рынкавай сістэме: аграрнікі, кіраўнікі прадпрыемстваў і мясцовыя ўлады. Чым даўжэй будуць расцягнутыя рэформы, тым больш магчымасці сабатаваць іх і паўплываць на вынік.

Востры праблемай для Беларусі таксама з'яўляецца пытанне ўцечкі мазгоў. Калі хутка не вырашыць сітуацыю, то наступствы апынуцца сумныя. Досвед трансфармацыі іншых краін дае нам магчымасць пераканацца ў гэтым ...

**Мікіта Бяляеў.**

ВЫНІКІ РЭГІСТРАЦЫІ

# АДСЕЯЛІ КОЖНАГА ЧАЦВЁРТАГА

КАНДЫДАТАМІ Ў ДЭПУТАТЫ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ, ВЫБАРЫ ЯКІХ ПРОЙДУЦЬ 23 ВЕРАСНЯ, ЗАРЭГІСТРАВАНЫ 362 ЧАЛАВЕКІ, ПАВЕДАМІЛА СТАРШЫНЯ ЦЭНТРВЫБАРКАМА ЛІДЗІЯ ЯРМОШЫНА ВЕЧАРАМ 23 ЖНІЎНЯ Ў ЭФІРЫ ТЭЛЕКАНАЛА «БЕЛАРУСЬ-1».

Усяго прэтэндэнтамі ў кандыдаты ў дэпутаты на 110 выбарчых акруг вылучаліся 494 чалавекі.

Тыдзень таму Ярмошына ў гутарцы з журналістамі выказала меркаванне, што колькасць прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат, якім будзе адмоўлена ў рэгістрацыі, можа стаць даволі значнай. Такім чынам, у рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты было адмоўлена кожнаму чацвёртаму прэтэндэнту.

У большасці акруг рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты адбылася 22 жніўня.

Рэкамендацыя правесці рэгістрацыю кандыдатаў у адзін дзень зыходзіла ад Цэнтрвыбаркама. Паводле слоў Ярмошынай, «зарэгістраваць усіх кандыдатаў адначасова неабходна, каб ніхто не гаварыў, што хтосьці быў у няроўных умовах для правядзення агітацыі».

Падрабязнасці аб выніках рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты Ярмошына паведаміць на прэс-канферэнцыі 24 жніўня.

Ужо вядома, што кандыдатамі ў дэпутаты зарэгістраваны 35 з 48 прэтэндэнтаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, 30 з 33 — Партыі БНФ. У прыватнасці, этап рэгістрацыі паспяхова прайшлі лідары Партыі БНФ і АГП Аляксей Янукевіч і Анатоль Лябедзька, былыя дэпутаты парламента Валерый Фралоў і Уладзімір Навасяд, намеснікі старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і Аляксандр Стральцоў.

Не былі зарэгістраваны лідар руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч, прадстаўнік кампаніі «Гавары праўду!» Міхаіл Пашкевіч і іншыя вядомыя апазіцыйныя палітыкі.

**БелаПАН**

ЗАМЕЖНЫЯ ІНВЕСТЫЦЫІ

# ІТАЛЬЯНСКІ ІНВЕСТАР ПАКІДАЕ БЕЛАРУСЬ З-ЗА КАРУПЦЫІ І БЕЗЗАКОННЯ

ІТАЛЬЯНСКІ БІЗНЭСМЭН МАШЫОЛА КАТУЛА, ЯКІ ПРАЖЫЎ 11 ГАДОЎ У БЕЛАРУСІ, РАСПАВЁЎ ПРА ТОЕ, ШТО Ў РЭЧАІСНАСЦІ ЧАКАЕ Ў НАШАЙ КРАІНЕ ЗАМЕЖНЫХ ІНВЕСТАРАЎ.

**Аб няўдалым праекце «Біалеці Брэст»**

- Змена майго менталітэту ў дачыненні да бізнесу ў Беларусі пачалася з закрыцця буйнога інвестыцыйнага праекта кампаніі «Біалеці індустры». Я быў у той час генеральным дырэктарам міжнароднага інвестыцыйнага праекта. Для яго рэалізацыі быў прапанаваны будынак радыётэхнічнага завода. Спачатку прапанавалі цану 600 тыс. даляраў. Праз паўтара дня пералічылі і прапанавалі новую цану - 800 тыс. даляраў, а яшчэ праз некалькі дзён - 1 млн. 200 тысяч. Інвестар пачаў нервавацца. Тады яму прапанавалі вельмі добрае месца на «Цветатроне» - вялікі цэх. Але аказалася, што на гэтыя плошчы яшчэ раней знайшліся прэтэндэнты. Гэта было падобна на сітуацыю, выяўленую ў прымаўцы: пускаць пыл у вочы. Тады мы (я маю на ўвазе Брэст) згубілі «Біалеці». Франчэска Ранцоні перавёў свой бізнэс у Турцыю.

Там яму падарылі (!) будынак плошчай 20 тыс. кв. м. Яны сказалі: рабі што хочаш, але адкрый 500 працоўных месцаў.

**Пра кантэйнерны цягнік «Марка Пола экспрэс»**

Праект па арганізацыі кантэйнерных перавозак грузаў цягніком «Марка Пола» па маршруце Портагруаро - Брэст стартаваў у сакавіку 2010 г. Але ён спыніўся на пачатковым этапе.

- На гэтым нясклаўшымся праекце італьянская лагістычная кампанія страціла 120 тыс. даляраў. Атрымалася, што з Італіі гэты цягнік заўсёды ішоў поўны, а з Беларусі - заўсёды пусты. Чаму? Маё меркаванне: таму што ў Брэсце ёсць важныя людзі, якія з-за роднасных сувязяў лабіруюць экспедыцыйныя фірмы. Калі загрузіць цягнік - фуры не працуюць. Думаеце, у Італіі гэтага не разумеюць? Пасольства Беларусі ў Італіі дае такую статыстыку: у 2012 годзе экспарт Беларусі ў Італію павялічыўся ў 2,2 разы, а экспарт Італіі ў Беларусь - у 3,9 разы ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Транспарціроўка ўсяго тавару дае 60 млн даляраў. Што, гэты тавар ідзе «пешкі»? Вядома, на фурах. Гэта пры тым, што перавозка тавару адной фурай з Італіі ў Беларусь, каштуе 4500 еўра, а цягніком - 1,5 тыс. еўра. Усё гэта па меншай меры дзіўна, таму што любая дзяржава ў першую чаргу думае аб сваіх інтарэсах і ўжо потым - пра інтарэсы прыватных асоб.

**Пра тое, як здзяйсняецца правасуддзе**

Я ўжо больш за 10 гадоў жыву ў Беларусі, застаючыся грамадзянінам Італіі. Але да нядаўняга часу я не мог набыць тут ва ўласнасць кватэру, не маючы пасведчання на жыхарства. Вырашыў ўрэгуляваць жыллёвае пытанне з дапамогай адной з супрацоўніц. Я аформіў куплю кватэры ў адным з новых дамоў на вул. Маскоўскай на яе імя. Гэта абышлося мне ў 68 млн рублёў (у цэнах 2010 г.).

Але затым гэтая жанчына стала сцвярджаць, што набыла кватэру на свае асабістыя сродкі, і вырашыла яе прысвоіць. Я звярнуўся з заявай у пракуратуру аб прызнанні здзелкі несапраўднай. Разгляд доўжыцца больш за год.

У чэрвені гэтага года АУС Маскоўскага раёна Брэста паўторна вынес пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Гэта пастанова была адменена намеснікам пракурора Маскоўскага раёна Брэста. Нягледзячы на тое, што першапачаткова гэтая жанчына прызнала мяне ўласнікам гэтай кватэры, і на іншыя важкія, з майго пункту гледжання, аргументы (у тым ліку матэрыяльнае становішча абодвух і яе ранейшую судзімасць, якую яна схавала ад усіх і ад міліцыі таксама), справа так і не зрушылася з мёртвай кропкі. Хоць, я мяркую, нягледзячы на крызіс і прыналежнасць канфліктуючых бакоў да той ці іншай дзяржавы, правасуддзе павінна адбыцца.

**«Вячэрні Брэст».**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 29.08.2012 у 18.10.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.